

**1 лютага 1863 году падпольны правінцыйны камітэт на чале з Кастусём Каліноўскім абвясціў сябе Часовым правінцыйным урадам Літвы і Беларусі. Так распачалася двухгадовая барацьба беларусаў за свабоду грамадзян і незалежнасць краіны.**

**У 2013 годзе Беларусь адзначае 150-годдзе падзей, якія заклалі ідэйна-гістарычны падмурак новай беларускай дзяржаўнасці.**


# Мужыцкая праўда № 5 (12)

Першая рэвалюцыйна-дэмакратычная газета Беларусі.
Выдавалася з ліпеня 1862 па чэрвень 1863 году. Адноўлена ў лютым 2013 у гонар 150 годдзя паўстання.


# Рэха 1863-га

***Тры месяцы таму ў межах грамадскай кампаніі «Шляхамі касінераў» быў абвешчаны конкурс краязнаўчых артыкулаў. Некаторыя з іх мы ўжо публікавалі на старонках адноўленай «Мужыцкай праўды», зараз прыйшла чарга наступных. Цалкам з усімі працамі Вы можаце азнаёміцца на сайце Рэха Берасцейшчыны http://reha.of.by/ . Ну а зараз прыспеў час падвесці вынікі ўсяго конкурсу.***

Фіналістамі сталі 6 прац. Тры з іх распавядалі пра жыццё і грамадскі шлях ураджэнцаў берасцейшчыны: Рамуальда Траўгута, Рамана Рагінскага і Аляксандра Акінчыца. Астатнія апісвалі пераломны момант 1863-га году, прапанавалі агляд месцаў пахаванняў і памяці, якія захаваліся на берасцейскай зямлі і распавядалі пра лёс касінераў, сасланых у Сібір. Апошні артыкул, дарэчы, і быў дасланы з самой Сібіры, з гораду Іркуцку. Аўтары гэтых прац атрымаюць прыз - футболку з выявай Кастуся Каліноўскага. Астатнія ўдзельнікі могуць разлічваць на памятныя падарункі-сувеніры. Ну а зараз звернемся непасрэдна да саміх артыкулаў.

### Раман Рагінскі - герой паўстання 1863 году

(аўт. Павел Дайлід)

Мінула ўжо 150 гадоў ад слаўнай даты, калі продкі ўзняліся на барацьбу супраць расійскага панавання на нашай зямлі. Аднак на афіцыйным ўзроўні гэтая падзея ніяк не ўзгадваецца. Гэта і не дзіўна ва ўмовах, калі гістарычная навука ізноў трапляе пад ідэалагічны цiск. Сёння ізноў, як і ў савецкія часы, існуюць забароненыя тэмы ў беларускай гісторыі. Да такіх тэмаў належаць і падзеі паўстанняў супраць расійскага царызму і бальшавізму: паўстання Т.Касцюшкі, К.Каліноўскага, Слуцкае паўстанне 1920-х гадоў.

Узгадаем жа аднаго з герояў паўстання 1863 году - Рамана Рагінскага. 1 лютага 1863 года Літоўскі правінцыяльны камітэт выдаў да жыхароў Беларусі маніфест аб паўстанні. Адразу на сучаснай тэрыторыі Беларусь пачынаюць з'яўляцца першыя паўстанцкія атрады. З іх можна адзначыць атрад пад кіраўніцтвам камісара Падляшскага ваяводства Рамана Рагінскага. Атрад складаўся са 150 чалавек і быў добра ўзброены, была нават магчымасць узбройваць мясцовых паўстанцаў.

Ужо 11 лютага атрад прыняў бой з царскімі карнікамі графа Носціца і падпалкоўніка Вімберга пад в. Каралеўскі Мост. Сілы былі няроўныя, частка паўстанцаў вымушаная была адступіць на тэрыторыю Польшчы, а з астатнімі Рагінскі схаваўся ў лесе. Праз дзень паўстанцы Рагінскага аб'ядналіся з мясцовым атрадам С.Сангіна і Б.Рыльскага і авалодалі мястэчкам Шарашова (сёння Пружанскі раён), дзе яны вельмі прыхільна былі сустрэтыя мясцовымі жыхарамі. Тут Р.Рагінскі набыў адзенне і абутак для сваіх паўстанцаў, а таксама 6 пудоў пораху, заплаціўшы па 40 рублёў за пуд.

3 лютага 1863 г. на досвітку паўстанцы без усялякага супраціўлення захапілі павятовы горад Пружаны. Тут у горадзе яны знайшлі каля 200 карабінаў, у казначэйстве забралі 10 тысяч рублёў, з астрогу выпусцілі 9 арыштантаў. З Пружан атрад Рагінскага рушыў праз Кобрынскі павет на Піншчыну, а потым – у Мазырскі павет Менскай губерні, маючы намер узняць на паўстанне мясцовых сялян.


Раман Рагінскі. Тагачаснае фота

**19 стагоддзе было эпохай самавызначэння народаў, адыходу ад саслоўнага грамадства і фармавання нацыянальных дзяржаваў. Менавіта тады на мапе Еўропы з'явіліся назвы большасці сучасных краінаў. Беларусы ў той час не мелі ўласнай дзяржавы. Сама назва Беларусь толькі пачала ўжывацца ў дачыненні да гэтых земель, адрозніваючы нас ад іншых народаў былога ВКЛ - украінцаў, жамойтаў (летувісаў).**

**Рэвалюцыя пад кіраўніцтвам Каліноўскага - гэта першая спроба змагання за незалежнасць ужо беларусаў, як цэласнай і аднароднай нацыі. У адрозненні ад ранейшых саслоўных паўстанняў (шляхецкіх 1794 і 1830-х гадоў за аднаўленне Вялікай Літвы і Рэчы Паспалітай, альбо сялянскіх бунтаў) - у рэвалюцыі 1863-64 г. на адным баку стаялі і шляхціцы, і мяшчане, і прыгонныя.**

**Кастусю Каліноўскаму ўдалося спарадзіць агульнае бачанне новай беларускай дзяржавы, незалежнай, і з роўнымі па статусу, вольнымі грамадзянамі. На стагоддзі гэты ідэал стаў марай і мэтай для новых і новых пакаленняў беларускіх патрыётаў.**

17 лютага (па іншых звестках 25-26 лютага) каля вёскі Боркі (сёння Ганцавіцкі раён) паўстанцы Рагінскага сутыкнуліся з атрадам царскіх карнікаў пад камандаваннем Альбертава, які складаўся з трох рот пяхоты і сотні казакоў. Са звыклай адвагай Рагінскі пайшоў на няроўны бой і быў разбіты. Разбітых паўстанцаў царскія войскі пераследавалі і знішчалі. Ганцаўскія старажылы распавядалі, што аднаго з паўстанцаў, удзельніка бою пад Боркамі, казакі пераследавалі аж да в.Дзяніскавічы. Ва ўрочышчы Конік яго дагналі і забілі.

Сам Рагінскі з ад'ютантам Юрашкевічам і з некалькімі паўстанцамі выратаваўся і накіраваўся ў балоты Піншчыны. 3 сакавіка 1863 года Рагінскага злавілі каля Турава ў маёнтку шляхціца Млынскага. Ён быў арыштаваны і дастаўлены ў Берасце, а затым у Варшаўскую вязніцу.

Смяротны вырак змагару за волю Бацькаўшчыны ад 23 жніўня 1863 г. быў заменены на 20 гадоў катаргі, якую адбываў ён у Пермскай губерні. У 1892 годзе Раман Рагінскі вярнуўся на Радзіму, і пакінуўшы успаміны аб падзеях 1863-1864 гг. памёр 15 лютага 1915 году.

Паўстанне 1863-1864 гг. расійскія захопнікі душылі вельмі жорстка. Ужывалі розныя метады – катавалі і забівалі не толькі паўстанцаў, але і мірных жыхароў, якіх падазравалі ў сувязі з паўстанцамі. Палілі цэлыя вёскі разам з жыхарамі, высялялі ў Сібір і глуміліся над насельніцтвам так, што апусцелі цэлыя рэгіёны. Міжволі і параўноўваеш такую «братнюю любоў» з пазнейшымі зверствамі гітлераўскіх фашыстаў на нашай зямлі.

А расійскую палітыку ў дачыненні да нашага краю акрэсліў галоўны душыцель паўстання Віленскі генерал-губернатар М.М.Мураўёў: «Забудьте наивные мечтания, занимавшие вас доселе, господа, и помните, что если вы не станете здесь по своим мыслям и чувствам русскими, то вы будете здесь иностранцами и должны тогда покинуть этот край». Не дарэмна гэтаму кату беларускі народ даў мянушку «Вешальнік».

**Расейскія імперскія ўлады ў першай палове 19 ст. актыўна навязвалі найменне беларус у дачыненні да праваслаўнага (пераведзенага з уніяцтва) сялянскага насельніцтва краю. Яны разлічвалі стварыць «беларускую» альтэрнатыву «ліцвінскаму» самаўспрыманню народу колішняга ВКЛ. Паўстанне Каліноўскага стала сапраўдным шокам для ідэолагаў імперыі. Выявілася, што і самавызначаючыся як Беларусы, народ гэтай краіны ўсё адно ўпарта імкнецца да незалежнасці і вызвалення ад «брацкіх абдымкаў».**

**Пасля задушэння паўстання назва Беларусь была забаронена, ўжыванне мовы мясцовага насельніцтва жорстка пераследавалася. Вялося актыўнае перасяленне расейскага сялянства на абсягі ўжо «Паўночна-заходняга краю». Аднак імкненне народу да волі і незалежнасці нікуды не знікла. Яно захавалася ў генах «тутэйшых» да больш зручнага гістарычнага моманту. Менавіта яно заўжды падказвала беларусам, дзе - няхай і забароненае - сваё, а дзе - няхай і навязваемае - чужое.**

## Рамуальд Траўгут. Апошні дыктатар паўстання

(аўтар Ніна Марчук. У скарачэнні)

Шмат гадоў таму на старонках Берасцейскай абласной газеты “Заря” (№167, 168 за 1988 год) вучоным Берасцейскага пединстытуту Улдзімірам Калеснікам была ўзнята палеміка – патрабаванне аб вяртанні гораду Кобрыну вуліцы незаслужана забытага генерала, тутэйшага ўраджэнца, Рамуальда Траўгута. Тады на старонках газеты быў дадзены афіцыйны адказ гарадскіх уладаў аб тым, што ў бліжэйшы час адна з вуліц Кобрына будзе названая ў яго гонар. Прайшло больш 20 гадоў… Ужо другое пакаленне кабрынчан уздымае гэтую праблему… Дык хто ж ён, Рамуальд Траўгут, наш забыты зямляк?


Рамуальд Траўгут

У Шастакове 16 студзеня 1826 году нарадзіўся Рамуальд Траўгут. Пасля смерці маці бацька Рамуальда набыў новы фальварак Белая, каля Бярозы-Картузскай. Зусім недалёка ад сядзібы Белая знаходзіўся кляштар картузіянцаў і касцёл святых Юзэфа і Казіміра (пабудаваны на грошы Сапегаў два стагоддзі да гэтага). Упершыню ў гэтым касцёле будучы мяцежны генерал схіліў калені перад абразам Дзевы Марыі. Менавіта тут, у Белай, у яго дзіцячай свядомасці глыбока адбіліся падзеі, звязаныя з паўстаннем супраць расейскага цара 1830-1831 гадоў. Тады за службу ў паўстанцкім аддзеле некалькіх манахаў, імператар Мікалай I зачыніў кляштар (1834). Манахаў разагналі, а маёмасць канфіскавалі. Тут жа, у Белай, Рамуальд Траўгут атрымаў хатнюю адукацыю і паступіў на вучобу ў Свіслацкую гімназію.

Пасля вучобы ў Свіслачы Рамуальд з 1845 году служыў пад Варшавай у якасці падпаручыка расейскай арміі. Там ён ажаніўся з дачкой варшаўскага ювеліра, у іх нарадзілася дачка Ганна. У 1853 годзе Траўгут удзельнічае ў Крымскай вайне (вядомая абарона Севастопаля), служыць у Паўднёвай арміі, потым пераведзены ў Пецярбург у корпус ваенных інжэнераў. Але ў 1859 годзе яго сям'ю спасцігае вялікае няшчасце. Паміраюць двое малодшых дзяцей, бабуля, якая выхоўвала Рамуальда, потым і жонка. Ва ўдаўца на руках застаюцца дзьве старэйшыя дачкі. Траўгут пакідае на час службу ў войску і пераязжае ў спадчынны маёнтак Астроўе.

Вырашаючы справы на сваёй палескай радзіме, Траўгут, а тады яму было 36 гадоў, знаёміцца з Антанінай Касцюшка, унучатай пляменніцай вядомага генерала Тадэвуша Касцюшкі, і жэніцца з ёй. Для маладой сям'і Траўгут купляе ў Кобрыне дом па вуліцы Губерніяльнай (сёння будынак музею імя Суворава). І ўжо ў чыне палкоўніка расейскай арміі бярэ адстаўку і з сям'ёй селіцца ў маёнтку Астроўе. У гэты час ён займаецца сям'ёй, маёнткам, навукай.


Паўстанне Каліноўскага. Тагачасная графюра

Траўгут думаў, што ўжо нішто не парушыць яго супакой. І раптам у 1863 годдз ўспыхнула паўстанне! У лютым касінеры ўжо ўзялі Пружаны і рушылі ў спораўскія лясы. Калі ўзброенае паўстанне ахапіла і Кобрынскі павет, да Траўгута звярнуўся прыватны ўрач Паўлоўскі і шляхціч Элерт з просьбай прыняць камандаванне. На трэці дзень Траўгут быў ужо ў Дзеткавіцкім лесе пад Антопалем. У афіцэра не было ілюзіяў аб поспеху, падобна, у ім перамагло пачуццё доўгу. Паўстанцкі атрад складаўся са шляхты, чыноўнікаў, памешчыцкіх службоўцаў і сялян. Існавала рашэнне Цэнтральнага рэвалюцыйнага камітэту аб прымусовай мабілізацыі нежанатых мужчын ад 18 да 40 гадоў і выступлення супраць царскага ўраду. Асноўнай зброяй паўстанцаў былі паляўнічыя стрэльбы, пістолі і сялянскія косы, пастаўленыя пікай.

Пасля двух тыдняў ваеннай падрыхтоўкі партызанскі стан паўстанцаў каля вёскі Горкі (непадалёку ад Антопаля) паспрабаваў знішчыць царскае войска. У баі рускія згубілі 70 чалавек, паўстанцы – аднаго. Гэта іх узбадзёрыла.

Тады рускія мабілізавалі свае рэзервы і рушылі ў антопальскі лес. Бой быў крывавы. Страты панеслі абодва бакі. Царскі генерал нават даклаў вышэй, што Траўгут забіты. Але ён памыліўся. Траўгут застаўся жывы і захаваў атрад. Праўда, усяго 43 чалавекі. Яны сабраліся ў загадзя абумоўленым месцы і рушылі на Валынь, каб злучыцца на Палессі з іншымі паўстанцамі.

Абарваныя, галодныя, праследуемыя царскімі казакамі, яны ішлі па лясах і балотах. Траўгут хварэў на ліхаманку, яму дапамагалі ісці два паўстанцы. Тады ён прымае рашэнне распусціць атрад і паасобку прабівацца ў Белавежскую пушчу. Сам жа ноччу падаецца ў маёнтак Людвінава, непадалёку ад Драгічына, гаспадаром якога быў Пётр Ажэшка (муж будучай знакамітай паэтэсы Элаізы Ажэшкі). Яны без роздуму сталі на бок паўстанцаў, дапамагаючы, чым маглі: рыхтавалі правіянт, перавязачныя матэрыялы, шылі адзенне. Сам маёнтак быў цэнтрам сувязей Траўгута з паўстанцкім кіраўніцтвам.

Адно стала зразумелым: вайсковыя дзеянні вядуцца без прадуманага кіраўніцтва. І Траўгут вырашыў знайсці тлумачэнні гэтаму ў паўстанцкім кіраўніцтве ў Варшаве. Але як выбрацца з акружэння царскіх войскаў? І вось, у ліпені 1863 году з дапамогай Элаізы Ажэшка Траўгут з фальшывым пашпартам, прыкінуўшыся хворым сваяком гаспадыні, прыбыў да мяжы Каралеўства Польскага. І з групай у 20 чалавек сышоў за Буг.

Дарэчы, архіўныя дакументы сведчаць, што Пётр Ажэшка быў абвінавачаны ва ўдзеле ў паўстанні, “у прыняцці ў сябе мяцежнікаў, сярод якіх быў начальнік шайкі Траўгут”. Пётр Ажэшка быў асуджаны і сасланы ў Пермскую губерню, дзе ў хуткім часе і памер. А маёнтак яго быў прададзены царскім уладам.

Аднак вернемся ў Варшаву. 2 жніўня 1863 года нацыянальны паўстанцкі ўрад надаў Траўгуту званне генерала і дае паўнамоцтвы на замежныя місіі. Там Траўгут шукае падтрымку паўстанню, каардынуючы свае дзеянні з Кастусём Каліноўскім. Але, не дасягнуўшы выніку, Траўгут вяртаецца на Радзіму і бярэ ў свае рукі кіраўніцтва ўсім паўстаннем.

Але вынік паўстання быў ужо вырашаны. Царскія ўлады на падаўленне “бунтароў” кінулі вялікія сілы. Паўстанне было задушана. З краю былі высланыя 40 тысяч чалавек, 128 пакаралі смерцю, 853 накіравалі на катаргу, 500 – на пасяленне, 825 чалавек пазбавілі ўсіх правоў, 320 накіравалі шарагоўцамі ў войска, канфіскавалі 1600 маёнткаў.

У полі, каля сённяшняй вуліцы Чырвонаармейскай, каля ракі Кобрынкі стаялі шыбеніцы. На іх днямі віселі паўстанцы. Траўгут падзяліў з паўстанцамі свой трагічны лёс, як гэта зрабіў і Кастусь Каліноўскі. У турме Траўгут быў спакойны і мужны. Ён сам і яго чацьвёра паплечнікаў з высока ўзнятай галавой узышлі на эшафот, каб крочыць у бяссмерце…

Пасля гібелі Траўгута яго сям'я пераехала ў вёску Клапоцін (сёння вуліца Піянерская ў Кобрыне), бо іх сядзібу ў Астроўі спалілі царскія войскі. Але хутка ў Клапоцін з'явіўся ўраднік з распараджэннем цара забраць дзяцей у жонкі Траўгута і завезці іх у інстытут дваранскіх дзяўчат у Пецярбургу. Там, маўляў, з іх выхаваюць лепшых грамадзян, чым быў іх бацька. Але Ганну і Элаізу загадзя патаемна накіравалі ў Варшаву, дзе яны выхоўваліся пад чужымі імёнамі пры падтрымцы сяброў.

У 1933 годзе палеская пісьменніца Марыя Радзевіч выступае ініцыятарам усталявання помніка Траўгуту ў Гарадцы, у 15 кіламетрах ад Кобрына. Помнік быў усталяваны, але ў 1939 годзе мясцовы войт зняў дубовы крыж з помніка і прадаў яго нейкаму яўрэю. Пазней быў разбураны і сам помнік. Увесну 1933 году ў вёсачцы Астроўе, адкуль сыходзіў на вайну Траўгут, быў адкрыты памятны знак – вялікі дубовы крыж і на камяні былі выбітыя словы: “Рамуальду Траўгуту – вялікаму сыну Палесся”. Час не захаваў ні крыж, ні камень. Крыж згніў, а камень забраў на будоўлю хтосьці з мясцовых жыхароў. У 2003 годзе крыж і камень былі адноўленыя, праўда, не зусім на тым месцы.

У 1928 годзе на ахвяраванні насельніцтва быў адчынены помнік генералу Траўгуту ў пасёлку Свіслач, дзе ён калісьці вучыўся. Але ў 1939 годзе помнік разбурылі вайскоўцы Чырвонай Арміі, захаваўся толькі пастамент. І толькі праз 50 гадоў па архіўным фотаздымкам энтузіясты аднавілі помнік.

Яшчэ ў Кобрынскім раёне, непадалёку ад в. Бухавічы, быў маёнтак сям'і Мітрашэўскіх – “Божы дар”. Аб гэтым я чула ад роднай цёткі майго мужа, Алены Марчук. Яна ў канцы XIX стагоддзя была пакаёўкай у гэтым маёнтку. Цёця расказвала аб маёнтку і аб сямейнай таямніцы мяцежнага генерала. Менавіта ў гэтым маёнтку на патаемным сходзе Рамуальд Траўгут даваў прысягу на вернасць паўстанню.

21 траўня 2003 году на месцы гэтага хутара мясцовы калгас і ПМК-52 усталявалі мемарыяльны валун з шыльдай.

**Польскія рэвалюцыйныя колы, абвесціўшы сябе Польскім нацыянальным урадам у 1863 годзе, разлічвалі адрадзіць Рэч Паспалітую як польскую дзяржаву. У рэвалюцыйнае кіраўніцтва ўваходзілі ў асноўным прадстаўнікі буйных феадальных сем'яў. У паўстанні яны разлічвалі больш на палітычны ціск і дыпламатычную дапамогу іншых краінаў. Сялянскае пытанне ж наогул не разглядалася Варшаўскім камітэтам.**

**Аднак на Беларусі мэты і шляхі інсургентаў былі іншымі. Кастусь Каліноўскі, які ўзначальваў Літоўскі правінцыйны камітэт, быў заўзятым прыхільнікам фракцыі чырвоных (рэвалюцыянер-дэмакратаў). Яны, у адрозненні ад белых (манархістаў-кансерватараў), адстойвалі персанальныя грамадзянскія свабоды і выступалі за нацыянальнае самавызначэнне народаў былой Рэчы Паспалітай.**

**Прынцыпы Каліноўскага не падабаліся варшаўскаму кіраўніцтву паўстання, і 27 лютага 1863-га яны дамагліся парадачы кіравання паўстаннем віленскаму камітэту «белых». Аднак пасля капітуляцыі большасці буйных феадалаў у выніку царскіх рэпрэсій, праз 4 месяцы Каліноўскі быў вернуты ў склад Віленскага камітэта, а 31 ліпеня 1863 ізноў узначаліў яго.**

**У Кастуся Каліноўскага не было жадання здавацца і адступаць. На сваёй зямлі і за сваю зямлю ён змагаўся да апошняга. Ён не пакінуў адданых яму людзей нават калі сілы касінераў пачалі таяць і паўстанне мусіла перайсці да партызанскай барацьбы. Ад мары пра вольную Беларусь ён не адступіўся і перад смерцю – ў ноч перад павешаннем Кастусь Каліноўскі пісаў ліст да свайго народу, дзе заклікаў не спыняць змаганне за волю Радзімы.**

Наклад: 299 асобнікаў. Надрукавана на ксераксе.
Выдадзена 15.08.2013 г. Берасце.
Кантакты рэдакцыі:
Віктар Клімус МТС: (029) 227 52 12
Life: (025) 513 19 20
Павел Дайлід: (029) 522 82 30




Больш інфармацыі шукайце тут:
vk.com/grunt_brest
reha.of.by